БМ

ВЫХОДЗІЦЬ З ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

# Беларуская МАЛАДЗЕЖНАЯ

Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета №6




Мастак А. СТАЛЯРОГІ

**ЎВАГА!**
**Дзелавая прапанова кіяскёрам і ўсім, хто жадае падзарабіць!**
**Дагартайце нумар да старонкі 7**

Памятай пра Сьмерць

## MEMENTO MORI!

## Жыццё ў стылі "БМ"

Чытайце на старонцы 6

Георгий КУНЕВИЧ, Президент Белорусского Республиканского Фонда Поддержки Демократических Реформ:

## Власть -- от Советов!

Читайте на странице 5

Пасля іх – хоць патоп?

## "РЭАРГАНІЗАЦЫЯ"

Чытайце на старонцы 4

Елена СТЕПАНОВА, бывший главный редактор радиостанции "Криница":

## Служить бы рад. Прислуживаться тошно

Читайте на странице 3



## Ад'езд на Гімалаі -- пасля 20-га?

# "КВАДРАКОЛА"

"Асадзі назад"

(Янка Купала)

# Назад!

Хочацца зьменаў. Хочацца прагрэсу. Хочацца няўхільна рушыць наперад. Хочацца, каб людзі ўсьміхаліся й хадзілі гэткія задаволеныя й шчасьлівыя. А не валяліся на вуліцах. На ўслонах, пад услонамі, ля крамаў, у скверах. Хочацца рабіць сваю справу ды каб не заміналі, каб не ўтваралі перашкодаў...

Хочацца? Назад!!!

Заўсёды знойдуцца людзі, якія хочуць іншага, і ты зразумееш, што апынуўся ў меньшасьці.

Хочацца рабіць сваю справу? Назад! Мы ня хочам працаваць. У сэньсе, нешта рабіць: шрубаваць ніты, пісаць п'есы, лавіць злачынцаў. Але мы хочам атрымліваць штомесячны аклад. Каб усё па справядлівасьці. Правільна гаворацьразумныя людзі: кожны мае права на працу. Гэта галоўнае наша права. Права на тое, каб прыйсьці на гэтую працу, прасядзець за сталом /ля станка, у курылцы й г.д./ належных восем гадзінаў /колькасьць гадзінаў трэба было б, усё ж, падскарацiць/ ды, як сумленны чалавек, пайсьці дахаты /на сустрэчу зь сябрамі, у краму, у сквэр, у госьці й г.д./. Такім чынам, ты ня маеш рацыі. Усе хочуць мець права на працу, але ня хочуць працаваць.

Табе хочацца прагрэсу? Зьменаў? Назад! Якога табе прагрэсу? Колькі цяпер каштуе гарэлка? Ведаеш? А мы памятаем часы, калі каштавала 4.12. А яшчэ раней... А пры Сталіне!.. Дарэчы, пры Сталіне на кожным рагу стаялі закусачныя, дзе можна было кінуць сто грамаў. Заесьці кілбаскай. Пагаманіць з прыяцелямі. І парадак быў. Ня тое, што цяпер. Разьвялося камэрсантаў. Аб'ядаюць адно народ. Таму вось гарэлка дарагая й цыгарэты. А ты гаворыш: зьмены, прагрэс! На халеру такія зьмены?!

Хочацца табе рабіць сваю справу? А што ў цябе за справа? Дык гэта ж ня справа! Такіх, як ты, трэба пасылаць дрэвы пілаваць на марозе. А ты тут ходзіш, усіх з панталыку зьбіваеш, пішаш нешта. Пісьменьнік! Вось Леў Талстой -- гэта пісьменьнік. Ды й той зямлю араў. А ты, відаць, і ня ведаеш, як гэта робіцца. Назад!

Хочацца, каб па вуліцах усе хадзілі шчасьлівыя? Усьміхаліся? Назад! Чаго ім усьміхацца! Да чаго народ давялі! А потым кажуць: усьміхайцеся. Бачылі вас, усьміхастых! Давядуць да таго, што папяросаў няма на што купіць, а потым кажуць: усьміхайся. Забіў бы!

І вось яны стаяць перад табою, а твары ў іх гэткія брунатныя /ды й бруднаватыя/, вочкі маленькія, чырвоныя. Сьлінаю пырскаюць, аж но апляваліся. Жэсты рэзкія. Гэтак можна і атрымаць нізавошта. І што рабіць?

І вось, давайце ўявім, што я прысьніў чарговы сон. Маўляў, "назад" дайшло да такое ступені, што я апынуўся ў Мэзазойскай эры. Адзін. Сяджу на беразе акіяну. Горача. Яшчары вакол ходзяць. Лётаюць. Поўзаюць. Плаваюць. Хвашчы растуць. Іншыя экзатычныя расьліны. І сяджу я зусім самотны. Ніводнага чалавека наўвок, бо людзі яшчэ не нарадзіліся. Але сяджу шчасьлівы-шчасьлівы. Бо лепей ужо зь яшчарамі ды з хвашчамі, чым з тымі брунатнатварымі яшчарамі, якія ўсё крычалі: "назад", "адновім", "пад'яднаемся", "вернем". Далібог, з спраўднымі яшчарамі лепей.

*Квадраколер*
*Лявон ВОЛЬСКІ*

**P.S. Шаноўныя мае чытачы! Я нікога не хацеў пакрыўдзіць, асабліва наш вялікі й магутны народ. Не. Проста гэта былі мае фантазыі, узьніклыя са слова "назад". Гэткімі яны й застануцца, тым болей, што ад фантазыяў ніколі ня трэба патрабаваць абэктыўнасьці.**



Где наш молот?Где наш серп? Для восьмидесятилетнего Василия Павловича Короля, пенсионера узденского колхоза имени Ильича, -- вопрос...

Всю свою жизнь он, как говориться, "вкалывал". "Все вокруг колхозное, все вокруг мое" -- так, кажется, пели? Трудился человек, не ожидая льгот и наград, не думал, что на старости останется у разбитого корыта.

Разбитым оказалось не только семейное благосостояние. На здании правления колхлза -- такой же разбитый герб бывшего Союза. Ни серпа, ни молота, ни земного шара -- одни колосья. Как нынче-то будет с хлебушком?

*Фото Евгения ПЕСЕЦКОГО*



**Свершилось! В Беларуси есть законно избранный Президент!**

# Крутой правитель властвует недолго

Сейчас, пожалуй, нет надобности рассказывать читателям об итогах выборов -- об этом писано-переписано. Важнее, на наш взгляд, поразмышлять о том, как смог человек, которого два-три года тому назад мало кто знал, как смог обычный директор рядового совхоза завоевать такое огромное доверие народа? Вспомним, как била его "левая" и "правая" пресса, как унижало национальное телевидение, как измывались правоохранительные органы, как охотилась за ним команда бывшего премьер-министра... Казалось бы, вот-вот он должен поднять руки вверх, уйти в тень, а он держался и шел вперед. Не опираясь на широкие плечи ни БНФ, ни ПКБ, ни других партий и движений.

Воистину, в борьбе победа за тем, кто силен духом!

Почему же люди поддержали его, Александра Лукашенко, а не Вячеслава Кебича -- Председателя Совета Министров, за спиной которого стояли мощные идеологические институты? Почему во втором туре почти все село голосовало против Кебича? Нет, не потому, что Александр Лукашенко родился и долгие годы работал в деревне, знает вкус пота и крестьянскую боль. Вячеслав Кебич -- тоже бывший деревенский парень, говорят, и косить умеет. Но не это стало решающим фактором.

Вспомним август 1991 года, московский путч, мощное эхо которого заглушило рассудок многим отцам республики. Они бросились спасать свою шкуру. Как? Сдав партийные билеты. Первым о выходе из КПСС заявил товарищ Кебич и его заместители. Вышли, но остались у власти, раздавая направо и налево народное достояние. А рабочие и колхозники, которые верили своим партийным боссам, остались наедине со своими тревогами и печалями. Им теперь, извините, до одного места и рынок и социализм. Им, простым людям, хочется хорошо зарабатывать и быть спокойным за судьбу своей семьи. Им надоели политические игры, обещания, заверения. Они верили компартии, которая вела в светлое будущее, потом народным депутатам, которые клялись снять последнюю рубаху за счастье народное, а потом в очередях за микрофоном забыли о своих клятвах. Им надоело верить и ждать.

Длительная терпимость порождает ожесточение. Против произвола, коррупции, несправедливости, лицемерия, подлости... В лице Александра Лукашенко народ увидел человека, который сможет покончить с этим злом, который повернется лицом к простому рабочему и колхознику, который заговорит на понятном им языке, который умеет учитывать момент и быть смелым в решениях.

Сумеет ли он стать действительно народным Президентом? Трудно пока ответить на этот сакраментальный вопрос. Одно дело давать предвыборные обещания, другое дело -- воплотить их в жизнь. Лично мне кажется, что в выступлениях Александра Григорьевича перед избирателями часто верх брали эмоции над рассудком. Судите сами, как можно на третий день президентства прижать к ногтю всех, кто запустил свою волосатую руку в народный карман? Как можно к концу года "запустить" заводы, которые сейчас простаивают из-за непоставок сырья? Как можно "просто" стабилизировать кредитно-финансовую систему? И такх вопросов множество.

Решит ли их Президент "одним махом"? Как бы здесь не наломать дров. Ведь не зря говорят, что крутой правитель властвует недолго. История это подтверждает. Вспомним хотя бы судьбы бывших президентов Грузии, Армении, Азербайджана... Правда, те знали направление, в котором двигались. А Александр Григорьевич, похоже, не очень-то хорошо и знает дорогу, по которой должна идти Беларусь к цивилизации. Вспомним, сначала он бил челом Ельцину, потом -- Хасбулатову, хатем -- Госдуме России... Сначала он выступал за денежное объединение, потом -- против него. Сначала он был ярым противником Кебича, потом -- его соратником, позже -- его идейным врагом...

Все это, конечно, можно спиасть на возраст, молодость -- это как бы опьянение, нечто вроде лихорадящего разума. Но не хотелось бы, чтобы грехи молодости Президента пришлось искупать тем, кому он поклялся в верности.

В лице Александра Лукашенко многие видят инициатора реформ, крутых мер, жетских правил. Да, беспредел нынче кругом, и с ним нужно бороться. Через ломку государственных структур, кадровой политики. Но "все" разрушать нельзя. Нужно начинать строить! Делать и производить, организовывать и наводить порядок, отлаживать экономические связи и оздоровлять финансы, прибирать к месту ворюг и поощрять честный труд...

Есть у нас, белорусов, нечто такое, чем следует дорожить, неделимое, вечное и святое -- Беларусь, отец, мать, душа, честь, чувство долга и товарищества, отзывчивость на чужую беду... Это -- наше настоящее, а будущее -- в настоящем. Это мы создаем его. Если оно плохо, то в этом и наша вина.

30 августа Александру Григорьевичу Лукашенко исполнится 40 лет. Помоему, Б.Франклин сказал: "В двадцать лет человеком властвует желание, в тридцать лет -- разум, в сорок -- рассудок". У белорусов не принято заранее поздравлять юбиляров. Тем не менее уже сейчас хочется пожелать Президенту даже в самые трудные и трагические моменты не терять рассудка. И еще -- не сближаться с людьми, у которых слишком гибка совесть.

*Владимир БАЦКАЛЕВИЧ,*
*специально для "БМ"*

*Адам ГЛЁБУС:*

# Заўвагі нацыяналіста

Раней былі словы, якія не сустракаліся ў слоўніках. Цяпер ёсьць слоўнікі, складзеныя выключна з такіх словаў. Да прыкладу: слоўнік турэмнага арго, слоўнік палескае мовы, слоўнік-самавучыцель расейскага мату...

* * *

Жывёлы гавораць выключна на роднай мове.

* * *

Калі каня перакласьці зь нямецкае мовы на гішпанскую, можа, атрымаецца асёл.

Большасьць перакладчыкаў ня бачыць у гэтым зьмізарненьні заганы, бо не адчувае розьніцы паміж уласнымі здольнасьцямі й талентам Гётэ, Шылера ці Апулея.

Самае сумнае, што на беларускую мову перакладаюць з расейскае, таму атрымліваецца не вышэй згаданы асёл, а пацук.

І яшчэ наўздагон адно сумнае назіраньне...

Калі аўтары тэкстаў перакладаюць зь беларускае мовы свае творы на мову расейскую з пацука не атрымліваецца асёл, наадварот пацук робіцца мурашом.

* * *

Кошт і цана -- розныя рэчы. Ведаючы, чаму не заўсёды, нават прыблізна, можна вызначыць кошт. Слоўнік прускае мовы каштуе жыцьцё цэлага балтыйскага народу, слоўнік лацінскае мовы -- жыцьцё вялікае імпэрыі... А цана ў іх выціснута на вокладцы: 2 і 3 савецкіх рублёў.

* * *

Калі Ты не жадаеш выглядаць ілжывым блазнам, дык у першую чаргу варта пазьбягаць зьяўляцца на тэлевізійным экране, бо калі ўладкаваўся ў фатэлі перад камэраю гаварыць праўду нельга, за яе можна апынуцца ў турме, а ў лепшым варыяньце -- ванітная размова з рэдактарам-цэнзарам.

За доказамі далёка хадзіць ня трэба... Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў посткамуністычны ўрад забараніў газэты й радыёстанцыі, а тэлявізія працавала як гадзіннік. На беларускай тэлявізіі не працуе ніводнага сумленнага чалавека, прынамсі сяганьня.

* * *

Толькі францыец і расеец могуць захацець дажыць да такога дня, калі на золку апошняга караля задавяць кішкамі апошняга папа,-- менавіта гэтыя крайне рэвалюцыйныя нацыі намагаліся наблізіць Эўропу да такога незабыўнага дня.

У беларусаў няма каралёў дый сьвядомых сьвятароў няшмат, адпаведна й людажэрнае жаданьне не ўзьнікае.

"Не хачу быць каралём, хачу быць Радзівілам!" Вось ён беларускі лёзунг.

Сапраўды, добра ж быць найбагацейшым чалавекам у дзяржаве... А кароль?.. І каралі, і каралевы -- рабы этыкэту, а не свабодныя людзі.

# "СНАЧАЛА БЫЛО СЛОВО..."

(Библия)

## Служить бы рад. Прислуживаться тошно

Однобокая, во многих случаях аллилуйско-холуйская позиция электронных средств массовой информации в период подготовки и проведения президентских выборов -- закономерное следствие их многолетнего существования в условиях несвободы, чиновничьего произвола и командно-административной цензуры.

Для партии власти журналисты всегда были не более чем обслуживающим персоналом, официантами, коим вменялось в обязанности безропотно и услужливо подавать заказанные блюда да сметать мусор и объедки с барского стола. Угодничество ценилось превыше профессионализма, лакейство превыше творчества.

В результате имеем то, что имеем. Журналисты-официанты спешно меняют замаранные грязью фартуки на новые и уже готовятся к приему новых заказов.

Первый заказ, сделанный журналистам новой властью -- "чувствовать себя свободными", -- внушает надежду на то, что, ставшее в последнее время привычным на экране и в эфире "соло для одного голоса с хором услужливых подпевал", сменится, наконец, многозвучной ораторией; хлыст пастуха -- палочкой главного дирижера -- Закона. И в журналистике будут хоть когда-нибудь востребованы не востребованные ранее профессионализм, творчество и объективность.

Жизнью, как известно, движет необходимость. И только необходимость свободы слова, возведенная в ранг государственной политики, позволит ее проводникам сохранить ясность и остроту зрения при ярком, ослепляющем свете юпитеров и софитов. И, напротив, не позволит современным сусаниным-заметалиным увлечь себя в затягивающее болото славословия, велеречия и потери способности адекватно реагировать на происходящие в обществе перемены. И безо всяких репрессивно-командных мер остановит конвейер по массовому производству журналистов-официантов.

Однако это пока только призрачные надежды. Реальность же такова, что, пропущенные через драговецко-заметалинскую мясорубку, журналисты электронных средств массовой информации -- одни, как неподдавшиеся переработке кости, просто безжалостно выброшены, другие же пребывают в состоянии аморфной массы, из которой по желанию повара, в данном случае политического, можно вылепить все, что угодно.

Будучи сфокусированным на массовое сознание общества, такое положение в электронных средствах массовой информации с самого начала становления новой власти может стать для нее тем фантомом прошлого, который будет преследовать ее во всех будущих начинаниях.

А, надо сказать, для создания этого фантома немало потрудились сатанисты от идеологии, направляемые заметалинско-драговецкой кликой, и их верные слуги -- заплечных дел мастера Столяров, Поволяев и др.

Так, в период проведения предвыборной и выборной президентской кампании в Госкомитете по телевидению и радиовещанию грубо попирались не только действующие законы и элементарные права человека, но и была развернута настоящая "охота на ведьм", в которой роль "охотников" играла "тройка особого назначения" /председатель, зам. председателя, директор дирекции программ/, а роль гонимого на заклание стада отводилась всем остальным сотрудникам Гостелерадио. "Охотники" не затрудняли себя выбором средств, предпочитая два -- запугивание и "сокращение в связи с ликвидацией"...

Агонизирующая партия власти тщательно позаботилась о заметании следов собственной неблаговидной политики, убрав с дороги многих честных журналистов-профессионалов, и оставила в наследство новой власти идеологическую машину-развалюху с дезориентированными и потерявшими управление водителями и искалеченными, израненными катком идеологического пресса пассажирами.

Куда могут завести такие поводыри-водители общественное сознание, догадаться нетрудно. А ведь именно через это сознание будет формироваться доверие или недоверие к новой власти, оценка ее политики и реальных дел.

Итут не достаточно только одного провозглашения свободы. Вернуть доверие населения электронным средствам массовой информации, уважение журналистов в первую очередь к самим себе, своей профессии и властям способно только создание законодательной базы и реальных условий развития свободы слова, гарантии их неукоснительного соблюдения со стороны властных структур, проведение тонкой и продуманной кадровой политики.

Только в этом случае четвертая власть будет реально способствовать укреплению первой. В противном же случае фантом холуйского послушания электронных средств массовой информации властьпредержащим будет неотступной тенью следовать за новой властью, ложиться на массовое сознание, затмевая разум и трезвую оценку происходящих событий, и приведет к тем же последствиям, очевидцами которых мы все сейчас являемся. Ибо опасность идеологического, как, впрочем, и всякого иного рабства, в том и состоит, что, прежде чем погибнуть, оно губит своих хозяев.

*Елена СТЕПАНОВА, бывший главный редактор радиостанции "Криница", специально для "БМ"*

Слов из песни не выбросишь:



*"Прощайте, товарищи, с Богом. Ура!"*
*Фото Е. ПЕСЕЦКОГО*

## ...Вторая древнейшая четвертая власть?

Смешная это штука -- предвыборная кампания! Еще неделю назад совминовская "Советская Белоруссия" (ну никак мы ни от чего советского отказаться не можем!) утверждала на своих страницах, что единственный спаситель и благодетель наш --Кебич. Открываю намедни эту зажиревшую на дотациях газету и глазам не верю: довел, оказывается, этот самый "спаситель" со товарищи республику до глубочайшего экономического кризиса!

Не волнуйтесь, спадар Осинский, не стоит перед первым законно избранным президентом так "прогибаться": дотации на бумагу, полиграфические услуги, равно как и полную свободу слова А.Лукашенко всем изданиям поровну обещал.

Не стоит суетиться и руководству Гостелерадио. Подарил, по их словам, Вячеслав Францевич нам, грешным телезрителям, "Семнадцать мгновений весны", глядишь, и Александр Григорьевич приподнесет на радостях что-нибудь, например, фильм "Неуловимые мстители". Вместо лебезящих комментариев лучше бы возобновить в полном объеме выход в эфир "Беларускай маладзежнай" и "Крыніцы", а то ведь по кебичевской указке их закрывали. Нынче другая власть -- другие и требования!

Словом, пора бы заканчивать "перестройку" в газетных и радиоконцепциях. Пресса ведь для того и существует, чтобы давать точный и объективный анализ происходящего вокруг. Ни к кому не подлизываясь, ни с кем бездумно не соглашаясь. Задумайтесь над этим, коллеги!

А то ведь из четвертой власти и второй древнейшей профессии выйдет только последняя да и то под номером первым!

Надеемся, Президент сдержит свое слово, данное на первой пресс-конференции журналистам: "Пресса должна быть свободной!"

**Н.КОПЧЕНОВ, "БМ"**

# Власть -- от Советов!



L. SAPIEHA

ІНФАРМАЦЫЙНА-АДУКАЦЫЙНЫ ЦЭНТР ПРАБЛЕМ САМАКІРАВАННЯ
ПРЫ БЕЛАРУСКІМ РЭСПУБЛІКАНСКІМ ФОНДЗЕ ПАДТРЫМКІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ РЭФОРМ ІМЯ Л.САПЕГІ

INFORMATIONAL AND EDUCATIONAL CENTRE OF LOCAL GOVERNMENT
BELARUS DEMOCRATIC REFORMS SUPPORT FOUNDATIONS
L.SAPIEHA FUNDATION

*КУНЕВИЧ Г.Г.*
*Президент Белорусского Республиканского Фонда Поддержки Демократических Реформ*

**В настоящее время в Беларуси продолжает существовать традиционная для республик бывшего Союза централизованная система местных органов власти в виде Советов. Приспособленное к соответствующей политической структуре бывшей КПБ-КПСС, это административно-бюрократическое образование является серьезным тормозом на путях социально-экономического, политического и национального развития Беларуси. Сейчас налицо паралич власти на местном уровне.**

Неэффективность существующих местных Советов очевидна. Система Советов по-прежнему носит идеологический характер, предназначена для выполнения политических функций государственных центральных органов власти. В лице Советов совмещаются функции, с одной стороны, государственной власти на местах, с другой -- функции местных выборных представительных органов данной административно-территориальной единицы.

Вся местная "советская" власть держалась на монополии и диктате компартии. Сейчас бывшей КПБ нет, но есть ПКБ, а структура (пирамида) власти -- кадры, связи, функции -- осталась прежней. Отсутствует точное разграничение компетенции между Советами разных уровней и их исполнительными органами, но налицо коллективная безответственность Советов и их исполкомов при отсутствии экономических и правовых рычагов регулирования социально-экономической деятельности в пределах административно-территориальной единицы.

Сейчас многие избиратели задают вопрос: почему после всплеска политической активности, связанной с выборами во все уровни власти (весна 1990г.), наступает апатия и разочарование в деятельности депутатского корпуса -- как в ВС, так и на местах. И здесь, я считаю, основная проблема заключается в том, что многие депутаты не поняли главного: не изменив правовую базу, систему и функции законодательной, представительной и судебной властей, не разграничив государственное управление и местное самоуправление, нельзя кардинальным образом сдвинуть процесс реформ как в экономике, так и в сфере реформирования системы Советов. Необходимость реформ признают все, многие депутаты ВС и лидеры политических партий заверяют в правильности их предложений и программ реформ. Но с чего начать?

В основе любых реформ государства лежит конституционное обеспечение. Мы предлагали заложить в новую Конституцию основные принципы перехода от централизма к демократии, от тоталитарного политического к правовому государству.

Действия нашего ВС в этом направлении носят бессистемный, непоследовательный и противоречивый характер. Кто скажет, какая концепция реформ местных органов власти в Беларуси предлагается Верховным Советом? Когда эти реформы начнутся? На протяжении трех лет Верховный Совет разрабатывал новую Конституцию. Местному самоуправлению в ней посвящен Раздел 5.

Фонд дважды подавал в качестве законодательной инициативы свой вариант этого раздела, основанный на принципах Европейской Хартии Территориального Самоуправления. Наш вариант поддержали такие основные политические партии, как БНФ (включили в программу), белорусские социал-демократы и либералы, горсоветы крупных городов республики. Однако 15 марта 1994 г. Верховный Совет принял Конституцию, где зафиксирована старая советская система местных органов власти. Возможность реформирования этой системы в ближайшее время очень проблематична. Причин тому множество.

Вспомним: выборы в Верховный Совет и местные органы власти проводились в 1990г., в то время, когда не существовали демократические партии. Следующие выборы будут не раньше весны 1995 г.

Законодательство о местных Советах закрепляет старую систему местной власти на принципах государственного управления и централизма, органы государственной власти на местах не разделены с органами местного самоуправления, а, как я уже отметил, проект новой Конституции парламентского большинства (прокоммунистического) в части "Местное самоуправление" не вносит ничего нового в сложившуюся систему Советов. Правительством Республики отрицались возможные демократические изменения на местном уровне, о чем свидетельствует вариант раздела "Местное управление и самоуправление", разработанный Советом Министров для проекта Конституции.

В республике отсутствуют ассоциации местных властей, новые демократические партии не обладают навыками, кадрами, средствами для качественной подготовки реформ, в том числе и в области местного самоуправления. К тому же не созданы необходимые государственные структуры для разработки научно обоснованных законопроектов. Общественное сознание в Республике в настоящее время дезориентировано. Идет смена стереотипов, идеалов, переоценка общественных ценностей. Дальнейшее развитие общества становится невозможным, если не предложить определенную систему координат -- точных, понятных и привлекательных жизненных ориентиров. Таковыми могут и должны стать понятные всему цивилизованному сообществу основы демократического, конституционного строя, базисом которого является местная демократия. Необходимое условие существования такой демократии -- самоуправление как логическое выражение процесса демократизации.

Со стороны центральных органов в РБ делаются декларативные заявления о приверженности идеям гражданского общества, проводятся некоторые мероприятия по деконцентрации административного управления, но процессы децентрализации заметны меньше всего или их попросту нет. Многие парламентарии у нас не понимают необходимости децентрализации. Идеи о самоуправлении воспринимаются как угроза существующей пирамиде власти. Последние исследования и конференции Фонда по проблемам местного самоуправления (февраль -- май 1994 г.) свидетельствуют о недостаточном уровне знаний в этой области не только среди широких слоев населения Беларуси, но и значительной части депутатов Советов всех уровней, а также служащих местных исполнительных органов власти. Это один из основных факторов, сдерживающих демократические преобразования в республике. На начальном этапе реформ в 1990-1991 г.г. у нас было несколько популярных лозунгов типа: "Все на выборы" и "От Советов -- к муниципалитетам". Лозунги остались, а реформы не увенчались успехом.

Для последовательного, успешного и социально-сбалансированного проведения децентрализации и перехода к реальному самоуправлению считаю необходимой разработку "Концепции реформирования государственного управления на местном уровне и системы местных представительных органов власти". В настоящее время у Верховного Совета и Совета Министров нет такой концепции и нет понимания необходимости подготовки научно-обоснованной программы децентрализации. Концепция должна быть принята Верховным Советом и правительством в качестве государственно-правовой модели, а на ее основе разработан блок муниципальных законопроектов (7 или 10 законов прямого действия). Принять этот блок муниципальных законов необходимо одним пакетом и создать государственную структуру для подготовки и реализации реформы (на основе Конституции и принятых законов).

Концепция и законы начнут работать, если население их поддержит и поймет. А это пока не меньшая проблема. Существующее у подавляющего большинства избирателей мифологизированное восприятие власти, вера в жесткую, централизованную власть, незнание социальной перспективы реформ, отсутствие демократических традиций -- все это является барьером для развития демократического процесса. Мы разработали программу исследований этих проблем, но ее реализация затруднена отсутствием в республике специалистов в области социальной психологии.

На сегодняшний день в республике старые структуры власти контролируют средства массовой информации. Через систему дотаций и кадровую политику, скрытую цензуру оказывается давление на независимые источники информации. Информация о социально-значимых проблемах, предложения по реформированию структур управления и экономики не проходят или носят отрывочный, поверхностный характер. Идет обоснование отсутствия кардинальных реформ в Республике Беларусь как фактора стабильности, раздаются призывы возврата к старым временам, простым и понятным социальным ценностям.

Это далеко не полный перечень проблем, который характеризует ситуацию в Республике. Но это именно те проблемы, разрешение которых позволит всем нам жить лучше, толковее, в желанном цивилизованном порядке и достатке.





# MEMENTO MORI!

Так, пагаворым пра... Сьмерць. Адчуваю, як у кагосьці цямнее твар. Хтосьці ўжо наважыўся адкласьці ў бок газэту. Чую, як нехта прабурчэў пра сябе: маўляў, мала нялюдзкага ў жыцьці! Дапускаю, зрэшты, сярод чытачоў пэўны адсотак аматараў "клубніцы", якія ня супраць паказытаць свае нэрвы пераказам якога-небудзь жыцьцёвага трылеру з крывёю ды вычварэньнямі...

Усё ж такі паспрабуйце дачытаць гэта. Сьмерць уваходзіць у нашае жыцьцё зьнянацку. Трагічна. І заўжды на цябе абрынаецца цяжар на мяжы двух вымярэньняў, дзе доўга існаваць немагчыма. Сьмерцю ня толькі вымяраецца Жыцьцё. Сьмерць ня толькі далучае да адвечных пытаньняў. Сьмерць сутыкае з самым брудным, што ёсьць у рэчаіснасьці. Таму варта кожнаму быць падрыхтаваным да ейнага надыходу. І ня толькі ў душы.

У доказ -- гамана з чалавекам, які па прафэсыі сваёй са сьмерцю мае наўпроставыя стасункі.

Я сустрэўся зь ім упершыню насуперак маёй волі ды жаданьню. А шостае раніцы. У невялічкім ляску -- зялёным аазысе ў цэнтры вірлівага Менску. Там быў знойдзены труп маладое дзяўчыны -- ахвяры самагубства. Ён спрытна адсочваў і рабіў досьледы, а я, выпадковы сьведка, маўкліва згаджаўся. Няглeдзячы на экстрэмальнасьць сытуацыі, я ня здолеў стрымаць журналісцкага й чалавечага інтарэсу да яго. Праз тыдзень мы сустрэліся ў Менскай трупярні з самым маладым экспэртам гарацкога бюро судмэдэкспэртызы Ігарам ВЯРЛЫГАМ. Стаж працы 7 гадоў. Ускрыў тысячы трупаў. І беспрацоўе яму не пагражае.

-- Я не кашчуйнік, але ці любіш ты сваю працу?

-- Гм... Сказаць, што так, дык любы нармальны сярэдні чалавек пакруціць ля скроні: маўляў, падабаецца калыпацца абы ў чым! Але нашыя досьледы сапраўды сур'ёзна дапамагаюць сьледчым, родным і блізкім даведацца, што адбылося ў сапраднасьці зь нябожчыкам перад сьмерцю. О, у такія часы на нас глядзяць як на апошні паратунак... У нас кажуць: той, хто паспытаў такое працы ды адразу не зламаўся, ня сыйдзе. Умовы працы, між іншым выбіраць не даводзіцца. Ускрываў трупы ў стайні, дзе за загароджаю стаяў конь. А ў Хойніках, пасьля Чарнобылю, у зімовую сьцюжу, калі не працавала каналізацыя ды ацяпленьне, а вакол сэкцыйнага стала хоць на лызгачох сьлізгай. У трупярні прыходзілася распальваць вогнішчы, бо пальцы ў гумовых пальчатках не разгіналіся ад холаду. Дарэчы, апошніх катастрафічна не хапае. Карыстаемся, пакуль не ірвуцца. Так што ўсе экспэрты патэнцыяльна могуць быць заражаныя тым жа СНІДам, бо кантынгэнт, які "абслугоўваем", -- людзі з крымінальнага асяродку ці бяз пэўнага мейсца жыхарства. Цьфу, цьфу, пакуль вядомы такі выпадак у Маскве, але ж усё ў руцэ божай... Да таго ж у многіх краінах гэта адная з найбольш высокааплочваемых мэдычных спэцыяльнасьцяў. Мы ж атрымоўваем "мізэр", як і ўсе ўрачы, хоць пастаянна працуем з самым непрыемным і цяжкім "матэрыялам".



Уявіце: дзевяць судмэдэкспэртаў за год ускрываюць прыблізна 2000 трупаў. Хоць і гэта не мяжа -- няма каму працаваць. На Захадзе нашыя калегі адмовіліся б працаваць у гэткіх умовах. Скажам, там судмэдэкспэрты выклікаюцца выключна ў выпадку, калі ёсьць дакладнае падазрэньне на забойства і трэба засьведчыць час, калі сьмерць наступіла, якой зброяй наносіліся ўдары й г.д. Мы ж мусім ехаць у любым выпадку. Апошнім часам хіба што аддаем бяз роспаласьці тых, што памёр ад хваробаў у хаце.

У цывільных краінах, калі чалавек памёр, зьяўляецца паліцыянт, урач, які лекаваў, і ўдвох вырашаюць, што адбылося. Толькі калі вэрсыі адрозьніваюцца, пачынаецца агляд мейсца здарэньня й прафэсыйны досьлед нябожчыка.

-- Існуе меркаваньне, што пастаяннае знаходжаньне побач з трупамі нароўні з наркаманіяй...

-- Не, ня цягне да йіх. У нас кажуць: цудоўная была б праца, каб яшчэ трупаў не было. Дадам: бюракратычных правілаў, па якіх мы працуем і якія нязьменнымі засталіся з 1928 году, процьма! А інтэнсыўнасьць жыцьця, а значыць, сьмяротнасьці павялічылася ў дзясяткі разоў: транспартныя здарэньні, шмат бытавое тэхнікі, якая "не спрацоўвае", шчыльнасьць насельніцтва, якая ўплывае на ўсякую крыміналыцчыну. Ці вось праблема. Сёньня пахавальнае бюро бярэ ўдзел ва ўсіх абрадавых мерапрыемствах толькі пасьля атрыманьня роднымі сьведчаньня аб сьмерці, якое даецца толькі пасьля ўскрыцьця. У выніку, пахаваньне адкладваецца прынамсі на суткі. Гэта ж дадатковыя траўмы для родных і блізкіх! Дый нішто, калі сьмерць прыпала на будзённы дзень, а калі на выхадны -- чакай яшчэ дзень-другі...

-- Сьвет становіцца ўсё больш жорсткім, забойствы больш пачварнымі. Мо прырода чалавечая зьмяняецца ад таго, што адбываецца за вокнамі?

-- Не. Усё паўтараецца. Хоць я ня згодны з тымі, хто цьвердзіць, што ў чалавеку закладзеная праславутая бацыла забойства. Чалавек тая гліна, зь якое можна ляпіць усё, што заўгодна. Усё залежыць ад разьбяра. Праўда, сучаснае грамадзтва налепіць, мне падаецца, такіх монстраў, што ня будзем ведаць, куды падзецца. Пачварнасьць, вытанчанасьць забойстваў, калі хочаце, нарастае па днёх. Жыцьцё, толькі й глядзі, дараўнаецца ці пераўзыдзе тое, што назіраем па "відыках", якія чысьцяком прапагандуюць тэхналёгію забойстваў.

-- У цябе хапае моцы з аптымізмам глядзець у будучыню?

-- Мая філязофія заключаецца ў трох словах: усе там будзем. Гэта адзінае, у чым можна быць пераканаым на сто адсоткаў.

-- Прафэсыя прымусіла цябе зьмяніць уяўленьне пра тое, што ёсьць чалавек?

-- Прасьцей, чым ты, напрыклад, стаўлюся да сьмерці. Жывучы на цьвінтары, усіх не аплачаш.

-- А самы запамінальны выпадак у тваёй працы?

-- Ёсьць самы непрыемны. Калі труп быў зялёны і ўвесь пакрыты маскавіцай імху... А вось прыклад сапраўднага прафэсыяналізму. На чыгунцы быў знойдзены труп старое кабеты ў ніжняй бялізьне з траўмамі на галаве. Пры гэтым адзеньне было акуратна раскладзена побач. Надвор'е было веснавое, і мы ламалі галаву, навошта гэта бабулька распранулася. Пашэньціла знайсьці ў яе хваробу вачэй, пасьля чаго зразумелі, што яна ўвалілася ў калюжыну й расклала пасьля адзеньне на рэйках, каб прасушыць. Вось і трапіла пад цягнік.

-- Пытаньне містычнае. Мы госьці на гэтай зямлі ці, калі паміраем, дык назаўжды?

-- Я проста веру, што жыцьцё канцовае. Бо асабіста ў мяне мярцьвяк не ўставаў са стала, як у Юрыя Лонгі. І нават тое, што чалавек пасьля сьмерці, калі зь цела сыходзіць душа, важыць грамаў на 10 меньш, мяне слаба пераконвае. Ёсьць у мяне чыста інтуітыўныя здагадкі, пра якія шырокай аўдыторыі выказаць не рашуся.

-- Ці выпадковая сьмерць?

-- У любой сьмерці існуе свой заканамерны ланцуг падзеяў. Увогуле, чытачам "БМ" раю ў вызначальныя моманты жыцьця ўзгадваць старажытнае выслоўе "memento mori" -- памятай пра сьмерць. Гэта суаднясе ваш Выбар зь Вечнасьцю.

***Віталь СЯМАШКА, "БМ"***

# Жыццё ў стылі "БМ"

## Вузельчыкі на памяць

*Калі пастух злуецца на свой статак, ён дае яму ў кіраўнікі сляпога барана.*

**/Талмуд/**

*Няма няшчасця горшага за тое, калі чалавек пачынае баяцца ісціны, каб яна не выкрыла яго.*

**Паскаль**

*Калі дзяржава кіруецца розумам, то трэба саромецца, што ёсьць беднасць і галеча; калі ж дзяржава кіруецца не розумам, то трэба саромецца багацця і пашаны.*

**/Кітайская мудрасць/**

*Кожны чалавек мае ў другім люстэрка, у якім ён можа ясна разгледзіць свае ўласныя заганы, недахопы і ўсялякага роду дурныя якасці. Аднак ён звычайна паводзіць сябе як сабака, які лае на люстэрка, бо думае, што бачыць там не сябе, а другога сабаку.*

**Шопенгаўэр**

## Як стаць незалежным ад падачак дзяржавы, або спосабы першапачатковага накаплення капіталу

1. Прыватнае даведачнае бюро.
2. Пошта ва ўласным доме.
3. Прыватная фірма бытавых паслуг /мыццё акон, уборка кватэр і г.д./.
4. Прыватны дзіцячы садок.
5. Прыватная фірма па арганізацыі працы і адпачынку.
6. Прыватная бібліятэка.
7. Прыватны пляж.
8. Прыватная відэазала /у кафе, вакзалах, аэрапортах і іншых месцах/.
9. Паслугі па ахове аўтамашын на стаянцы каля дома па прынцыпу платных стаянак.
10. Збор лекавых раслін.
11. Заробак з дапамогай тэлефона /сакратар на даму, прыватная гандлёвая фірма, рэкламны ці камерцыйны агент/.

## Каляндар дачніка

**Канец ліпеня**

З мэтай рэгуліроўкі росту парасткаў, асабліва маладых прышчэпак, праводзяць прышчэпку і адгібанне. Пад багата пладаносныя дрэвы падстаўляюць падпоры, знімаюць з іх недаразвітыя плодзікі. Інтэрвал паміж асобнымі завязямі павінен быць не менш 10--20 см . У слівы іншы раз прыходзіцца такім чынам выкідаць больш чым палову завязяў. Гэта садзейнічае лепшай закладцы і фарміраванню пупышак для будучага ўраджаю.

Па меры паспявання збіраюць плады парэчкі, агрэсту, чарэшні і вішні. Праводзяць пазакаранёвую падкормку пладовых дрэў фосфарна-калійнымі ўгнаеннямі з дабаўленнем мікраэлементаў.

Рыхтуюць глебу для пасадак суніц: уносяць арганічныя і мінеральныя ўгнаенні за выключэннем азотных; глебу перакопваюць. Другая палова ліпеня -- лепшы час для пасадкі суніц.

Пры выяўленні сунічнага кляшча расліны пасля ўборкі ўраджаю скошваюць і спальваюць. Участак апрацоўваюць эмульсіяй кельтану. На адным участку не рэкамендавана вырошчваць суніцы больш як 3--4 гады.

Ліпень -- час фарміравання пладовых пупышак для ўраджаю будучага года. У канцы месяца праводзяць акуліроўку -- прышчэпку сляпым вочкам.

Нельга пазніцца з правядзеннем праполак, бо культурным раслінам можа быць нанесена непапраўная шкода. У першую чаргу праводзяць праполку сталовых буракоў і капусты.

Гароднінныя культуры, асабліва капусту, падкормліваюць арганічнымі /каравяк, гноевая жыжа/ і мінеральнымі ўгнаеннямі. Паліў і падкормку праводзяць адначасова з акучваннем. Апошняе дапамагае захаваць капусту ад захворвання кілой. Уважліва аглядаюць расліны з мэтай выявіць, ці няма на іх павуціннага клешчыка і мучністай расы. Калі расліны агуркоў хварэюць на мучнісную расу /белы налёт на лісці/, то можа дапамагчы рэгулярны паліў і прымяненне павышаных дозаў калійных угнаенняў. Расліны можна апрацаваць адным з наступных прэпаратаў: 50%-га раствору бенталанту /10 г на 1 м$^2$/, 25%-га раствору каратыну /10--30 г на 1 м$^2$/, калоіднай серы /20--40 г на 1 м$^2$/ альбо 70%-ым тапсінам-М /10 г на 1 м$^2$/. Апрысканне праводзяць вечарам.

У выпадку захворвання агуркоў антракнозам на лісці і пладах з'яўляюцца жоўтыя плямы і быццам бы ўціснутыя язвы на пладах. Потым на лісці з'яўляецца ружова-буры налёт, рэзка пагаршаецца якасць пладоў, пачынаецца адміранне раслін. Прафілактычным сродкам барацьбы з гэтым захворваннем з'яўляецца апрацоўка насення 80%-ым растворам ТМТД. Калі расліны захварэлі, можна апрыскваць адным з наступных прэпаратаў: 80%-ым растворам купразіну /24--32 г на 1 м$^2$/, 90%-ым растворам хлорвокісу медзі /24 г на 1 м$^2$/, 50%-ым растворам бенталанту.

Канчаткова прарэджваюць караняплоды: пятрушку, моркву, буракі, рэдзьку, акучваюць бульбу, высаджваюць расаду каляровай капусты другога тэрміну.

## Рэцэпты прыгатавання натуральных прэпаратаў для барацьбы са шкоднікамі і хваробамі раслін /настояў, адвараў/

**Настой насення нагаткоў.**

Для яго прыгатавання бяруць 400 г насення, здрабняюць яго і заліваюць 2 л вады пакаёвай тэмпературы. Сумесь настойваюць на працягу 5 сутак у цёплым месцы. Затым асадак адціскаюць і ўсю сумесь працэжваюць. Для апрысквання ў настой даліваюць ваду да 4 л.

**Настой гарчыцы.**

25--30 г парашка сухой гарчыцы заварыць у 1 л вады, расцерці і настойваць 2--3 сутак, а затым працадзіць. Для апрысквання аб'ём настою даводзяць да 10 л.

**Бульбяны настой.**

1,2--1,5 кг свежага альбо 0,6--0,8 кг сухога бацвіння заліваюць 10 л вады і настойваюць 3--4 гадзіны. Затым настой працэжваюць і выкарыстоўваюць для барацьбы супраць тлі, кляшчоў.

* * *

У барацьбе з каларадскім жуком прымяняюць попел ад згарання драўніны, каменнага вугалю, торфу. Ён дапамагае пазбавіцца таксама слізняў, дротавіка, фітафторы.

* * *

З біялагічных сродкаў барацьбы з каларадскім жуком найбольш даступны -- апрацоўка бітоксібацылінам. Для апрысквання трэба 40--100 г парашку растварыць у 10 л вады. Апрацоўку праводзяць у час масавага з'яўлення лічынак першага ўзросту з інтэрвалам 6--8 дзён.

*/З кнігі І.П.Апанасенка "Ваш прысядзібны ўчастак", Мінск, "Полымя", 1993 г./.*

## Летні абед па-амерыканску

**Ласання** -- гэта адвараная прамытая лапша, перамешаная з фруктовым пюрэ /падыйдзе любое пюрэ з кіславатых пладоў або ягад/ і цёртым сырам накшталт брынзы, запечаная ў духоўцы.

Папулярнае блюда -- **хлебны салат.** Робяць яго так. Батон чорствага хлеба ламаюць на мелкія кавалачкі. 3 вялікіх спелых памідоры рэжуць на 16--20 частак кожны. Шынкуюць адну невялікую цыбуліну. Рэжуць зеляніну пятрушкі.

Усё перамешваюць у вялікім посудзе і запраўляюць прыправай: 3/4 шклянкі алею, 1/4 шклянкі яблычнага воцату, чайная лыжка мелка парэзанага часнаку і чвэрць чайнай лыжкі молатага чорнага перцу. Салат не перамешваць, а трэсці.

**Клубнічны торт**

Раскрышанае печыва ці чэрствую булку, нацёртую на тарцы, змешваюць з ягадамі і кефірам. Некалькі ягад расціскаюць, змешваюць з цукрам і дадаюць у сумесь. Потым торт выкладаюць у форму, даюць пастаяць і падаюць на дэсерт.

**Мармелад** можна зварыць з яблыкаў, абрыкосаў, сліваў. Спелыя плады мыюць, чысцяць, выдаляюць костачкі і вараць у невялікай колькасці вады да гатоўнасці. Потым праціраюць праз сіта, дадаюць цукар /на 500 г пладоў -- 400 г цукру/ і на невялікім агні зноў вараць да загусцення.

*/З амерыканскага часопіса "Вуменс дей"/.*

## Травы для твару

**Маска з траў**

Узяць па 2 лыжкі рамонку, ліпавага цвету, лыжку шалфею, перацерці і заліць кіпенем. Кашыцу нанесці на твар і шыю на 20 мінут.

**Лас'ён з лекавых траў**

Змяшаць па чайнай лыжцы лісця мяты, кветкаў рамонку, звerабою, ліпы. Заліць 2 шклянкамі кіпеню на гадзіну. Калі ахалоне, дадаць чайную лыжку гліцэрыну. Праціраць твар пасля мыцця.

**Настой з траў**

Узяць 1 г кораня мальвы, па сталовай лыжцы ліпавага цвету і мёду, заліць шклянкай халоднай вады і кіпяціць 10 мінут. Праціраць твар і шыю.

***Занатавала, падрыхтавала Бабуля Алена***






# Самазванцы ў Еўропе

*Аповед пра тое, як група "Палац" наведала міжнародны фестываль у Германіі.*

Беларусь сінявокая -- дзівосная краіна! Упэўнены: тое, што здарылася з групай "Палац", не магло адбыцца з ніводным іншым калектывам. Калі толькі ён -- не беларускі.

Гісторыя тая мела пачатак увосень мінулага года, калі на радыё прыйшоў факс з Еўрапейскага саюза радыёвяшчання /EBU/ з запрашэннем да ўдзелу ў 15-м фестывалі фальклорнай музыкі, які меўся адбыцца ў пачатку ліпеня ў Рудольштадце /Цюрынгія/. Арганізатары прагнулі бачыць на фестывалі групу "Палац".

Не ведаю, што паўплывала больш: ці тое, што "Палац" ніякага дачынення да радыё не меў, ці то проста адсутнасць вялікага жадання заняцца арганізацыяй паездкі, але факт ёсць факт: я, няштатны аўтар "Беларускай маладзёжнай", перамовіўшыся з музычнай рэдакцыяй, пачаў паціху рыхтаваць паездку.

Праз "Мэджык джэз эджэньсі" пайшоў абмен факсамі, я пачаў шукаць грошы на паездку, таму што радыё, натуральна, не дало на тое падарожжа ані пфенішкі. І ніхто не даў. Фонд Сораса прыняў было заяўку, але дасланы з Германіі кантракт абнадзеіў, што сродкі будуць. У рэшце рэшт у дзень ад'езду мы мелі: укладзеныя ўласныя грошы /страхоўка транспарту, афармленне вывазу інструментаў, іншыя рэчы/, аўтобус /дзякуй ВТВ 1 г.Мінска/, пазычаныя на паліва маркі, візы /спецыяльна адзначу -- бясплатныя; дзякуй амбасадзе Германіі/. І кантракт, згодна якому наша група мела атрымаць грошы за выступленні ды бясплатны гатэль.

Звярну ўвагу, што ў германскай амбасадзе з нас сапраўды не ўзялі ані пфенінга, тлумачачы, што наша паездка мае гуманітарны характар і служыць справе ўмацавання культурных кантактаў. Ды вось у аддзеле экспертыз Мінгарвыканкома на тое ўмацаванне кантактаў, трэба думаць, чыхаць, калі там моўчкі выставілі рахунак за права вывазу музычных інструментаў. Няшмат, якіх чатыры долары, але сітуацыя, згадзіцеся, проста дзікунская: беларуская музыка ў Германіі патрэбна больш, чым на радзіме.

Ды годзе, нам яшчэ доўга, відаць, па-людску не жыць.

Селі, паехалі. Пераход мяжы -- даўно абрыдлая тэма: больш за два гады нас кормяць абяцаннямі, што на мяжы вось-вось будзе "о'кей". Пакуль што о'кея і зблізку не відаць. Чэргі -- бачна. Як і памежнікаў, у якіх у крыві, відаць, адно: без чаргі лускаць на Захад толькі танкі. Адзін з беларускіх зялёных бярэтаў доўга не мог даць веры, што "Палац" спявае па-беларуску. На 12 гадзіне стаяння, калі мяжу пераехалі толькі два маршрутныя экспрэс-аўтобусы /!!/, наш "Ікарус" з дапамогай цуда і нахабства прарваў кардон і дапяў да палякаў. Там усё іншло па-іншаму. "Цо граце? Хто на чым?" Карацей, падараваць касету прафесіяналу было проста неабходна. Праход польскай мяжы заняў мінут сем...

На нямецкай мяжы былі іншыя праблемы: дробныя трэшчыны на лабавым шкле аўтобуса. Прагучала катэгарычная каманда "Цурюк!", добра знаёмая нам і праз 50 гадоў па вызваленні. Гэта значыла, што трэба было мяняць шкло ў Польшчы. 800 марак. Паехалі на другі пераход. Там нас ужо чакалі: нумар "Ікаруса" зіхацеў на дысплеі камп'ютэра. Гадзіны дзве пайшло на перамовы. Мы прабіваліся, як праз Зеелаўскія вышыні. Далей усё было куды прасцей і адначасова куды смяшней. Аж да горычы.

У Рудольштадце кожная з радыёстанцый, што ўваходзіць у EBU, прадстаўляла па аднаму калектыву, нямецкія радыёстанцыі -- па два-тры. Нам уручылі значкі з надпісам: "Нацыянальная тэлерадыёкампанія Беларусі", якія адначасова з'яўляліся пропускам на ўсе мерапрыемствы фестывалю. У выдатна выдадзеным тоўстым буклеце "Палац" праходзіў пад патранатам "Беларускай маладзёжнай". Як пазней высветлілася на сустрэчы прадстаўнікоў радыёстанцый, толькі "Палац" прыехаў на фестываль за ўласныя грошы ад імя неіснуючай ужо кампаніі і ліквідаванай радыёстанцыі. Я растлумачыў шаноўнай грамадзе недарэчнасць сітуацыі, ды потым каардынатар фестывалю шэф фальклорнага вяшчання Вестдойчэ Рундфунк у Кёльне доктар Вернер Фюр сказаў, што большасць прысутных нічога не зразумела: для іх закрыццё радыёстанцыі па палітычных матывах -- з'ява проста абсурдная.

С краін СНД на фестывалі была прадстаўлена толькі Беларусь. Не даехала Народная опера з Масквы, не было ўкраінцаў, з блізкіх суседзяў -- літоўцы ды палякі. Канцэрты адбываліся на працягу трох дзён амаль адначасова на шасці-сямі пляцоўках, таму паслухаць усіх удзельнікаў фестывалю /больш за 50 калектываў/ не было аніякай магчымасці. "Палац" адкрываў фестываль на галоўнай сцэне ў двары старажытнага палаца Хайдэксбург. Адкрыў не так, як мог бы: большасць публікі з'явілася пазней, хлопцы хваляваліся звыш меры, а майстэрства гукаапаратараў расчаравала. На сцэне гук быў шыкоўны, а вось панарама давала працэнтаў 40 ад патрэбнага. Наступны ж калектыў прагучаў як належыць. Праўда, "Палац" атрымаў сваю долю апладысментаў, а праз паўгадзіны і ДАТ-касету з запісам канцэрта. Прыемна!

Затое другі канцэрт, у якім "Палац" таксама павінен быў "разаграваць" публіку а 12-ай гадзіне дня, калі гарадскія вуліцы дыхалі спёкай за 35 градусаў, атрымаўся выдатны. Гук -- ідэальны, публіка -- у двух кроках ад сцэны. Карацей кажучы, чатыры бісы запар, калі ўся вуліца пад промнямі сонца скакала і патрабавала аднаго: "Палац! Палац!" Два з нечым дзесяткі дэмакасет расхапалі за якія 15 мінут. Падыходзілі людзі і бралі адрасы, пыталіся, колькі каштуе група. Музыканты з польскага "Аркестра Святога Мікалая" запрасілі "Палац" на свой фальклорны фестываль у Люблін. Усе крыўды на радзіму забыліся: нашую музыку прымалі выдатна, яна выклікала такую цікавасць. А вось тое, што мы такія... Беларусы мы! Што маем -- не шануем, а ганарымся тым, што абяцаюць прэтэндэнты на высокае крэсла з аднае партыйнае стайні...

Я бываў на многіх фестывалях, але такога бачыць яшчэ не даводзілася. Адзін толькі факт: вулачка старога горада працягласцю метраў у сто была цалкам аддадзена майстрам па выбару музычных інструментаў, якіх запрасілі ў Рудольштадт з усёй Германіі. Якіх толькі інструментаў там не было! І колькі там было падобных вулачак!

Пасля другога канцэрта неяк аўтаматычна пачалі падводзіць рахункі. 500 марак нам каштавала гасцініца, больш за 600 -- паліва, іншыя непазбежныя выдаткі, харчаванне... Згадаўся вясёлы смех польскіх мытнікаў: як, вы згодныя іграць канцэрт за паўтары тысячы марак?! Але... Яны, напэўна, перасталі б рагатаць, калі б даведаліся, што нам прыйшлося выкласці сёе-тое і з уласных кішэняў.

А потым пачалі лічыць прыбытак. Ён з большага быў маральны. Адна песня "Палаца" трапіць у зборны СД фестывалю. Маем сякія-такія даволі канкрэтныя прапановы выступіць у Германіі. Але найбольш узрушыла тое, што на заключнай сустрэчы менеджэраў нам уручылі каля двух дзесяткаў кампакт-дыскаў з фальклорнымі запісамі з розных краін і каля 30 ДАТ-касет з запісамі ўжо гэтага фестывалю. Для любой радыёстанцыі гэта -- багацце неацэннае.

EBU -- саюз, які аб'ядноўвае дзяржаўныя радыёстанцыі Еўропы. Вось чаму доктар Фюр прасіў, каб гэтыя запісы прагучалі ў Беларусі ў дзяржаўным эфіры. Згодны. Але ёсць два "але". Першае: мы прывезлі тыя запісы, выдаткаваўшы ўласныя грошы. Калі нам аплоцяць выдаткі, мы перададзім тыя запісы без аніякіх умоў. Другое: што да ДАТ-касет, дык на нашым радыё проста няма адпаведнай тэхнікі. Тыя касеты лягуць на радыё мёртвым грузам: ні нашым, ні вашым. А запісы, трэба прызнацца, надзвычайныя. Мала таго, што высокай якасці. Фестываль у Рудольштадце трактаваў фальклор вельмі шырока. Канадзец Брус Кокбёрн ці амерыканка Пенелопа Х'юстан выконвалі, па-сутнасці, рок-музыку, а нямецкая група італьянца Мікеле Барэзі -- дзіўную сумесь панка з вясковымі карагодамі. Большасць калектываў, праўда, трымаліся традыцыйных узораў выканання.

Наступны фестываль EBU адбудзецца альбо ў Польшчы, альбо ў Фінляндыі. У кожным разе на Беларускае радыё зноў прыйдзе запрашэнне. Ды пасля ўсяго, што было звязана з паездкай у Германію, мяне ахоплівае вялікае сумненне: а ці трэба так мацаваць уласны аўтарытэт найперш самому беларускаму радыё? Беларускай культуры? Беларускай дзяржаве?

***Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ, "Музыка тоўстых", "БМ"***

# Музыка в стиле "БМ"

**Сразу же о главном: в предыдущем номере мы обещали... гм... нет, раздать всем по телевизору, холодильнику, отдельной квартире обещали не мы, мы обещали продолжить разговор о легендарной супергруппе "Led Zeppelin" и, несмотря на обалдевшие от "предвыборной гонки" головы, не будем откладывать наши обещания до двухтысячного года, а перейдем к делу.**

На прошлой неделе мы остановились на рассказе об огромном успехе второго альбома "Led Zeppelin", так что вполне справедливо начать разговор с выхода альбома третьего.

А вышел третий альбом группы в 1970 году, и назывался он "Led Zeppelin III". Диск очень быстро расходился. В восторге от него были и публика, и критика как в Англии, так и в Америке. Пейдж со своим очень странным пониманием блюза выжал из довольно несложных ритм-энд-блюзовых рифов композиции колоссального масштаба /достаточно вспомнить "Friends" или "Celebration Day"/. Много разговоров ходило в музыкальных кругах и вокруг песни "Hats Off To Roy Harper", гитарную партию которой Пейдж исполнил скрипичным смычком на электрогитаре. 28 июня в городе Бате состоялся концерт "Led Zeppelin", на который собралось тридцать тысяч зрителей, по тем временам рекордная цифра. Для примера, сегодня в той же Германии зал на триста мест -- вполне приемлемая площадка для команды среднего пошиба.

В том же семидесятом году Роберта Планта начинают преследовать всяческие неудачи -- сперва он попадает в автокатастрофу, а чуть позднее, когда он чинил свой автомобиль и находился под ним, машина упала на него.

Через год вышел очередной альбом под названием "Led Zeppelin IV". Группа активно гастролирует. Так, в 1972 году провели турне по Дальнему Востоку и Австралии.

Географическая справка: Дальний Восток -- общее название государств и территорий Азии. Охватывает крайнюю восточную часть СССР, восточную часть Китая, Южную Корею, КНДР, Японию /помните концерт "Led Zeppelin" в Комсомольске-на-Амуре?/.

1973 год начался с турне по США, в результате -- очередной рекорд: на концерт в городе Тампе собралось пятьдесят шесть тысяч восемьсот зрителей. В том же году выпущен очередной альбом "Houses of the holy". После выхода диска группа на время прекратила свою концертную деятельность. Как результат в 1974 году при "Atlantic Records" организована соб-ственная фирма грамзаписи "Swan Song" /Лебединая песня/. Через некоторое время "Led Zeppelin" вновь начала гастролировать и вновь не без интересных ситуаций. Так, в Нью-Йорке в сквере Медисон Гарден свыше пятнадцати тысяч человек более двадцати четырех часов ждали начала распродажи билетов на концерт "Led Zeppelin", а вось-мого марта на фестивале во Флориде на выступлении группы присутствовало около двухсот тысяч зрителей.

Техническая группа "Led Zeppelin" на тот период составляла сорок четыре человека во главе с дизайнером Наком Найтом. В распоряжении были значительные средства: 150 светильников, в том числе три криптоновых лазерных прожектора и новая надпись "Led Zeppelin", пять движущихся осветительных колонок, установки дымовых и звуковых эффектов -- все это мощностью около 310 кВт. В дополнение к этому компьютеризированная звуковая система с цифровым сдвигом мощностью в 70 кВт, которая обеспечивает слышимость на целую милю вокруг. /Не позавидуешь пенсионерам из "соседних" домов в радиусе километра/. Однако в скором времени группа вновь сократила свои гастрольные поездки -- в Греции на одном из островов Роберт Плант с семьей снова попадает в автоаварию.

В том же 1975 году выходит двойной альбом "Physical Graffiti". В одном из нью-йоркских магазинов его раскупали по триста комплектов за час.

В апреле 1976 года за две недели на студии "Music Land" "Led Zeppelin" записывает альбом "Presence", а в октябре на экраны выходит фильм "The Song Remains The Same", а также одноименный двойной альбом -- монтаж фрагментов концерта в Нью-Йорке в 1973 году.

После выхода двух пластинок и фильма слава "Led Zeppelin" беспредельна, и группа в начале 1977 года начинает очередное турне по Штатам. Так, в городе Понтиак во время концерта на стадионе "Silver Dome" собралось семьдесят шесть тысяч двести двадцать девять зрителей -- такого количества фэнов стадионы как Америки, так и Европы еще не знали. Гастроли были в разгаре, когда из Англии пришло известие о том, что от вирусной инфекции умер сын Роберта Планта, Карак. После этого Роберт Плант покинул группу.

**Продолжение следует.**

*Г.З.*



# Радыё "БМ" маўчыць. А што па "яшчыку"?

## ЧЕТВЕРГ, 21 июля

**Белорусское телевидение**

8.00 Утро республики.
8.10 Под куполом Вселенной.
8.20 "Полоцкая печать". Док.фильм.
8.30 Погода.
8.40 Первый Международный фестиваль фольклора. Передача 3-я "Бал над Пиной".
9.40 Пять минут на шутки.
9.45 Телевизионный Дом кино. Встреча с артистом А.Михайловым.
10.35 "Край". Казимир Семенович и его ракеты.
16.10 "Крыша для всех". Встреча с лауреатами шоу-конкурса юных исполнителей "Телебома".
16.45 Образ. Литературный тележурнал.
17.30 Новости (с сурдопереводом).
17.40 На международном фестивале духовной музыки. Часть 5-я.
18.10 Областные новости (Гродно).
18.25 Новости Би-би-си.
19.00 Зачитайте мое письмо...
19.05 Стоп-кадр. Криминальная хроника.
19.25 "Эти долговечные сосны..." Проблемы охраны окружающей среды. Поселок Сосны.
20.10 "А где мне взять такую песню..." Док.фильм.
20.30 Контакт: адреса, предложения, информация.
20.35 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Пять минут на шутки.
21.40 Под куполом Вселенной.
21.50 Погода.
22.00 НИКа.
22.15 "Славянский базар-94". Конкурс молодых исполнителей. День 1-й.
23.45 "Женщина без предрассудков". Худ.фильм. 2-я серия.

**Канал "Останкино"**

5.30 Утро.
8.00 Обзор рынка недвижимости.
8.15 Мультфильм.
8.35 "Дикая роза".
9.05 В мире животных.
9.45 Предприниматель.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.25 Новости.
15.25 "Война гоботов". Мультсериал.
15.55 Мультитроллия.
16.10 ...До 16 и старше.
16.40 Планета. Под небом Неаполя.
17.25 Документы и судьбы.
17.40 Загадка СБ.
17.50, 20.30 Погода.
18.00 Час пик.
18.25 "Дикая роза".
18.55 "Частная жизнь Александра Ширвиндта". Авторская программа Э.Рязанова.
19.40 Спокойной ночи, малыши!
20.40 Москва -- Кремль.
21.00 Лото "Миллион".
21.30 "Прямо в сердце". Худ.фильм (Италия).
23.40 "Я вам спою". Поет Елена Казанцева (Минск).
0.10 Пресс-экспресс.

**Канал "Россия"**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Вести.
6.20 Требуются... требуются...
6.30 Формула-730.
7.00 Время деловых людей.
7.30 Завтрак для чемпионов.
8.00 Всемирные новости Эй-би-си.
8.30 Телегазета.
8.35 Поехали.
8.45 "Санта-Барбара".
9.35 Волшебный сундучок.
9.45 Дневник фестиваля "Славянский базар-94".
9.50 Совершенно секретно.
10.40 Крестьянский вопрос.
15.20 Фестиваль "Белые ночи". Часть 1-я.
15.50 Там-там новости.
16.05 Новая линия.
16.50 М-трест.
17.05 Будни.
17.45 Праздник каждый день.
17.55 В мире авто- и мотоспорта.
18.25 Своя игра.
19.25 Подробности.
19.35 "Санта-Барбара".
20.25 Сам себе режиссер.
21.00 Евгений Леонов. Вечер памяти артиста.
22.20 Автомиг.
22.25 Звезды говорят.
22.30 Спортивная карусель.
22.35 "Пан Володыевский". Худ.фильм. 1-я серия.

**Санкт-Петербург**

12.00 Бизнес-выпуск.
12.10 Волшебная линия.
12.25 "Немецкая волна".
13.00 Скорая помощь.
13.30 "Александр Невский". Телефильм.
14.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ.
14.45 "Сладкая женщина". Худ.фильм.
16.20 Программа "Графика". Часть 2-я.
16.45 Мультфильм.
17.05 Поют и играют нахимовцы.
17.30 Реформа и власть.
18.00 Советы садоводам.
18.15 Мультфильм.
18.55 "Тихая дама" Сергея Шолохова.
20.00 О-ля-ля!
20.25 Телемагазин.
20.35 Телеслужба безопасности.
20.45 Час в квадрате.
22.00 Игры Доброй воли.
22.30 Ваш стиль.
22.40 "Вечерний звон". Музыкальный канал.

**8 канал**

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.20 Тележурнал "Немецкая волна".
18.50 Мультсериал "Вольтрон".
19.10 Телесериал "Лабиринт правосудия".
20.00 Студия "Рекорд" представляет мультфильм Уолта Диснея.
20.30 Телесериал "Морена Клара", 45 серия.
21.35 Студия "Рекорд" представляет худ.фильм.

## ПЯТНИЦА, 22 июля

**Белорусское телевидение**

8.00 Утро республики.
8.10 Экономикст.
8.20 Под куполом Вселенной.
8.30 Погода.
8.40 "Карамболь". Ток-шоу с участием певца М.Шуфутинского.
9.10 Пять минут на шутки.
9.15 Первый международный фестиваль фольклора. Передача 4-я "Хоровод друзей".
10.15 "Край". Игнат Домейка.
16.20 ПИК. Информационно-публицистический канал для подростков.
17.00 "И материнский вспоминается напев". Фильм-концерт.
17.30 Новости (с сурдопереводом).
17.45 Студия "Тэлесябрына". Подарки для души.
18.00 Экономикст.
18.10 Областные новости (Могилев).
18.25 Новости Би-би-си.
19.00 Шаг вперед. Встреча с представителями предприятий негосударственных форм собственности.
19.30 "Память сердца". Телеочерк.
20.05 Рейтинг.
20.30 Контакт: адреса, предложения, информация.
20.35 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Пять минут на шутки.
21.40 "Тамира" предлагает: "Свободное падение". Худ. фильм.
23.00 Под куполом Вселенной.
23.10 Погода.
23.20 "Славянский базар-94". Конкурс молодых исполнителей. День 2-й.

**Канал "Останкино"**

5.30 Утро.
8.00 Новый старт.
8.15 Сорока. Детская информационная программа.
8.45 "Горячев и другие". Телесериал.
9.15 Помоги себе сам.
9.45 Бизнес-класс.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Новости.
15.25 В гостях у сказки. "Приключения Буратино". 1-я серия.
16.50 Азбука собственника.
17.25 Эхо недели.
17.45, 20.35 Погода.
17.50 Человек и закон.
18.20 "Горячев и другие". Телесериал.
18.50 Поле чудес.
19.40 Спокойной ночи, малыши!
20.45 Человек недели.
21.05 "Ден Огаст". Худ. фильм.
22.10 "Взгляд" с А.Любимовым.
23.10 Музобоз.
23.55 Пресс-экспресс.

**Канал "Россия"**

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Вести.
6.20 Требуются... требуются...
6.30 Формула-730.
7.00 Время деловых людей.
7.30 Сам себе режиссер.
8.00 Всемирные новости Эй-би-си.
8.30 Телегазета.
8.35 Поехали.
8.45 "Санта-Барбара".
9.35 "Капитан Немо". Худ. фильм. 3-я серия.
10.40 Крестьянский вопрос.
15.25 Студия "Рост".
15.50 Там-там новости.
16.05 Новая линия.
16.50 Дисней по пятницам. "Одна против всех". Худ. фильм. 1-я серия.
17.45 Праздник каждый день.
17.55 Фильм-премьер.
18.10 Международный конкурс вокалистов им.Н.А.Римского-Корсакова. Гала-концерт.
19.25 Подробности.
19.35 "Санта-Барбара".
20.25 Дневник фестиваля "Славянский базар-94".
20.30 Городок. Развлекательная программа.
21.05 "К-2" представляет: "Поцелуй в диафрагму".
22.20 Автомиг.
22.25 Звезды говорят.
22.30 Спортивная карусель.
22.35 "Пан Володыевский". Худ. фильм. 2-я серия.
24.00 Частная коллекция. "Черное. Белое. Цветное".

**Санкт-Петербург**

12.00 Бизнес-выпуск.
12.10 Волшебная линия.
12.25 "Немецкая волна".
13.00 Скорая помощь.
13.30 "Жизнь моя -- опера". Фильм-концерт.
14.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ.
14.45 Телемагазин.
14.50 "Двенадцать стульев". 1-я и 2-я серии.
17.30 "Баламутские встречи".
17.55 Мультфильмы.
18.55 Худ.фильм С.Параджанова "Легенда о Сурамской крепости".
20.45 Телеслужба безопасности.
20.55 "Кон-Долория -- в музыке с болью, тоскою, печалью". Телефильм.
21.25 Телемагазин.
21.30 Будни.
22.00 Игры Доброй воли.
22.30 Ваш стиль.
22.40 "Роковая доза". Худ.фильм (США).

**8 канал**

18.00 Многосерийный фильм для детей "Карусель".
18.25 СОЛТЭК. Доремифасольки.
18.35 Мультсериал "Вольтрон".
19.00 Художественный фильм из серии "Отец Мэрфи".
19.50 Студия "Рекорд" представляет мультипликационный фильм Уолта Диснея.
20.20 Телесериал "Морена Клара", 46 серия.
21.10 Писатели юмористы.
21.20 Foxy music (повтор).
22.05 Студия "Рекорд" представляет художественный фильм.

## СУББОТА, 23 июля

**Белорусское телевидение**

8.00 Утро республики.
8.10 Под куполом Вселенной.
8.20 Погода.
8.30 Пять минут на шутки.
8.35 Тамира предлагает: "Свободное падение". Худ. фильм.
9.55 Мультфильм.
10.10 Показывает Витебск.
11.10 Столица. Тележурнал.
11.30 "Третья ракета". Худ. фильм.
13.10 20 минут редактора.
13.30 Барби-лото.
14.00 Под крылом Евфросиньи. Часть 1-я.
14.45 Десять заповедей.
15.15 "Нов и К" -- топ-10.
16.15 Силач. Спортивный телеклуб. Прямая линия.
17.05 "Черепашки ниндзя". Мультсериал для детей и взрослых.
17.35 "Славянский базар-94". Открытие центра национальных культур.
19.35 "Многозвучье". Беженцы. Прямая линия.
20.35 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.35 Пять минут на шутки.
21.40 "Звезды" на экране. "Не будите спящую собаку". Худ. фильм.
23.50 Под куполом Вселенной.
24.00 "Каскад". Контакт, информация, реклама.
0.15 Видимо-невидимо. Новости кино-видео-аудио.

**Канал "Останкино"**

7.00 Субботнее утро делового человека.
7.45 Слово пастыря. Митрополит Кирилл.
8.00 "Марафон-15" -- малышам.
8.30 Межгосударственная телерадиокомпания "Мир".
10.00 Утренняя почта.
10.30 Я -- женщина.
11.00 Новости культуры.
11.10 Смак.
11.25 Преодоление.
11.55 Фильмы нашей памяти. "Укротители велосипедов".
13.25 Книжный двор.
14.00, 23.05 Новости.
14.20 Лабиринт.
14.50 "Кэтвизл". Мультсериал.
15.20 "Нужно слышать красоту". Встреча с певцом В.Девятовым.
15.50 "Жизнь зоопарков".
16.30 Человек и закон.
16.40 Великолепная семерка.
17.35 Бомонд.
17.55 До и после.
18.45 "Бьюлаленд". Худ. фильм.
19.40 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Новости плюс.
20.35, 23.15 Погода.
20.45 "Комиссар".
21.40 Оба-на.
22.25 На Играх Доброй воли.
23.25 А.Челентано в худ. фильме "Вот мы какие...".

**Канал "Россия"**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.25 Студия "Рост".
7.55 Пилигрим.
8.40 Парламентская неделя.
9.20 Ретро-шлягер. В.Высоцкий.
9.50 Телеэрудит.
9.55 На Играх Доброй воли. Плавание. Тяжелая атлетика.
13.20 Непознанная Вселенная.
13.50 XX век в кадре и за кадром. В.Шукшин.
14.50 "К-2" представляет: "Звезды Америки".
15.20 Футбол без границ.
16.15 Телеэрудит.
16.20 Устами младенца.
16.55 Торжественное открытие Игр Доброй воли.
19.25 Праздник каждый день.
19.35 "Америка, Америка..." Худ. фильм. 1-я серия.
21.25 Джентельмен-шоу.
22.20 Автомиг.
22.25 Звезды говорят.
22.30 Спортивная карусель.
22.35 Дневник фестиваля "Славянский базар-94".
22.40 Программа "А".

**Санкт-Петербург**

8.30 Волшебная линия.
8.45 "Санкт-Петербург с высоты птичьего полета". Телефильм.
9.55 Игры Доброй воли. Плавание.
12.40 "Дождь". Телеспектакль по мотивам рассказов И.А.Бунина.
13.35 "Романтические миниатюры". Фильм-концерт.
15.50 "Марианна первая". Мультфильм.
16.20 "Ритм, ритм, ритм..." Фильм-концерт.
16.35 Экспресс-кино.
16.55 Игры Доброй воли. Церемония открытия.
19.30, 21.45 Информ ТВ.
19.55 "Верные друзья". Худ. фильм.
22.00 Дневник Игр Доброй воли.
23.05 Ваш стиль.

**8 канал**

15.00 Худ. фильм. "Приключения Электроника", 1,2 серии.
17.05 Мультсериал "Трансформеры", 51, 52 серии.
17.45 Проповедник Кеннет Коупленд.
18.15 Приключенческий сериал "Залив Опасный".
19.00 "Как дела, старина?".
19.30 Телесериал "Цветок страсти", 51, 52 серии.
21.00 СОЛТЭК. Спортивная мозаика.
21.30 Семь минут с "Христофором".
21.40 Студия "Рекорд" представляет худ. фильм.

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 24 июля

**Белорусское телевидение**

8.00 Утро республики.
8.10 Под куполом Вселенной.
8.20 Пять минут на шутки.
8.25 Слово к человеку.
8.55 Белорусский тур. Путешествия, встречи, отдых.
9.10 "Черепашки ниндзя". Мультсериал для детей и взрослых.
9.40 ABC-клуб. Английский учим сами.
9.55 MTV. Лучшие хиты.
10.25 Белые и черные. Шашечный телеклуб.
11.05 Проспект. Информационно-аналитическая программа.
11.35 Симфонические образы. Г.Вагнер. Симфония N3 "Памяти матерей".
12.15 Сельчане. "Челн жизни".
12.45 Под крылом Евфросиньи. Часть 2-я.
13.20 Мультдетектив, или шоу с кражей.
14.00 Волчок-шоу.
14.25 Служба 01.
14.35 "От сердца к сердцу". Музыкальная программа к Дню работников пожарной охраны.
15.35 "Трын-трава". Худ. фильм.
17.10 Телемагазин.
17.20 Телеклуб "Гав-гав".
17.45 Деловой вестник.
18.00 "Черепашки ниндзя". Мультсериал для детей и взрослых.
18.30 "Гиннес-шоу".
19.00 Футбол. Чемпионат Беларуси. "Динамо-93" -- "Неман" (Гродно). 2-й тайм.
20.00 Панорама.
20.35 Под куполом Вселенной.
20.40 Колыбельная.
21.00 Пять минут на шутки.
21.05 "Призывники". Короткометражный фильм.
22.00 "Славянский базар-94". Концерт "Песнярам"-25.

**Канал "Останкино"**

7.00 Олимпийское утро.
7.45 "Спортлото".
8.00 Марафон-15.
8.30 С утра пораньше.
9.00 Полигон.
9.30 Пока все дома.
10.00 Утренняя звезда.
10.50 "Контрольная для взрослых". Телесериал. Фильм 8-й.
11.35 Малые города России.
12.05 Шпаргалка.
12.10 "Подводная одиссея команды Кусто". Док. фильм.
14.00 Игры Доброй воли.
14.00, 17.20, 23.00 Новости.
14.20 Межгосударственная телерадиокомпания "Мир".
15.00 Живое дерево ремесел.
15.05 Америка с М.Таратутой.
15.40 "Баскетбольная лихорадка", "Настоящие охотники за привидениями". Мультфильмы.
16.35 Игры Доброй воли.
18.40 Телелоция.
18.55 Погода.
19.00 КВН-94. Первый Всемирный фестиваль КВН.
21.00 Воскресенье.
21.50 Спортивный уик-энд.
22.05 Кабаре "Все -- звезды".
23.10 Вестники.

**Канал Россия**

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Вести.
7.25 Мульти-пульти.
7.45 Здорово живешь.
8.00 Студия "Рост".
8.30 Доброе утро, Европа.
9.00 Лучшие игры НБА.
10.00 Аты-баты...
10.30 Провинциальные письма. "Призрачная граница".
11.00 "Впервые замужем". Худ. фильм.
12.35 Дневник фестиваля "Славянский базар-94".
12.40 Шесть соток.
13.20 "Не вырубить..."
13.35 Коробка передач.
14.00 В мире животных.
14.55 Чемпионат России по футболу. "Динамо" (Москва) -- ЦСКА.
17.00 Волшебный мир Диснея. "Гуфи и его команда" , "Черный плащ".
17.55 Праздник каждый день.
18.05 "Золотой Остап". Юмористическая программа.
19.25 "Америка, Америка..." Худ. фильм. 2-я серия.
20.50 Курьер Игр Доброй воли.
21.25 У Ксюши.
22.20 Автомиг.
22.25 Звезды говорят.
22.30 На Играх Доброй воли. Дзю-до.

**Санкт-Петербург**

7.45 "Целительное слово". Программа-богослужение.
8.15 Дневник Игр Доброй воли.
9.20 "Клементина". Мультфильм.
9.55 Легкая атлетика.
11.00 Воскресный лабиринт.
12.25 Легкая атлетика.
14.00 Экспресс-кино.
14.20 Сказка за сказкой.
15.05 Храм.
15.55 Плавание.
17.00 Концерт М.Ростроповича.
18.30 Информ-ТВ.
18.55 Баскетбол.
20.55 Адамово яблоко.
22.00 Дневник Игр Доброй воли.
23.00 Ваш стиль.

**8 канал**

15.00 "Приключения Электроника". Худ. фильм. 3-я серия.
16.10 "Воинственные викинги" из цикла "Исторические сражения".
17.00 Мультсериал "Трансформеры", 53, 54, 55 серии.
18.05 СОЛТЭК. Телефэн. Улица.
18.35 Телесериал "Цветок страсти", 53, 54, 55 серии.
20.55 Спорт-секрет.
21.10 Студия "Рекорд" представляет худ. фильм.
22.40 Foxy music.



**"Беларуская маладзёжная"**
**Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета**
**Заснавальнікі**
**М. КАПЧОНАЎ і І. ЦІШЫН**

**Адрас рэдакцыі:**
**220134, Мінск,**
**вул. Якубоўскага, 15-1-77**
**Кантактны тэлефон: 57-00-43**
**Пасведчанне аб рэгістрацыі N 882**

**Падпісана ў друк 18 ліпеня 1994 г.**
**Мінская паліграфічная фабрыка "Чырвоная зорка" (Мінск, 1-шы Загарадны зав., 3)**
**Кошт 200 рублёў**
**Тыраж 25 тысяч экз.**
**Заказ N 1865**

**Галоўны рэдактар**
**Т. І. МЕЛЬНІЧУК (НІЧЫПАРУК)**